# Да завяршэння падпіскі на другое паўгоддзе засталося 4 дні. Не спазніцеся!

## Заможныя людзі! Дапамажыце падпісацца на "Народную волю" тым, у каго цяжкае фінансавае становішча.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**


**№ 99 (221)**

Серада, 11 чэрвеня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.19 | 21.38 |
| Магілёў | 4.27 | 21.29 |
| Гомель | 4.33 | 21.17 |
| Мінск | 4.38 | 21.40 |
| Гродна | 4.54 | 21.53 |
| Брэст | 5.04 | 21.45 |

*Першая квадра 13 чэрвеня.*



Адкрытым тэкстам

## Каму жывецца весела...

У адным з нумароў "Народнай волі" прачытаў карэспандэнцыю "У нас теперь не правительство, а что-то враждебное по отношению к гражданским пенсионерам!" І не вытрымаў — вырашыў адгукнуцца на гэты матэрыял. Пад ім могуць падпісацца ўсе грамадзянскія пенсіянеры. Бо яны цяпер не жывуць, а існуюць. Пенсіі ледзь-ледзь хапае, каб не памерці з голаду. Вопратку ж таксама трэба насіць!

Затое жывецца больш-менш весела пенсіянерам, якія служылі ў арміі, КДБ і міліцыі.

Нядаўна я пабываў у Ляхавічах. Знаёмы пенсіянер з Баранавіч мяне спытаў:

— Колькі ты атрымліваеш пенсіі?

— 843 тысячы рублёў, хоць 38 гадоў быў журналістам, 29 гадоў працаваў рэдактарам Ляхавіцкай раённай газеты. Да гэтага два гады служыў у органах МДБ.

— Мізэр, — пачуўся адказ. — Я атрымліваю паўтара мільёна беларускімі рублямі.

Памер пенсіі ў майго знаёмага амаль у два разы большы, чым у мяне, хаця пораху ён не нюхаў, але два гады ў турме адсядзеў: шчупаў маленькіх дзяўчынак, пакуль тыя не пакрыўдзіліся маці...

А наша дарагая міліцыя таксама балюе. Стаіць на варце парадку і ўчыняе беспарадкі. Да якой агіды трэба дайсці, каб збіваць ні ў чым не вінаватых людзей. Нават замахнуліся на дэпутата Шчукіна (з заявы Бюро Цэнтральнага Камітэта ПКБ, якая апублікавана ў газеце "Товарищ").

Пенсіянеры-міліцыянеры таксама не пакрыўджаны. Адзін ляхавічанін атрымлівае таксама паўтара мільёны беларускімі рублямі, хоць ледзь-ледзь дацягнуў да пенсіі. На дзяжурства з'яўляўся пад градусамі. І зараз беспрабудна п'е гарэлку. І гэта дзякуючы таму, што насіў міліцэйскія пагоны.

Вельмі правільна піша пенсіянер В.І.Балуеў з Мінска, што трэба пенсіі дыферэнцыраваць у залежнасці ад стажу, адукацыі, укладу ў пенсійную капілку і такім чынам навесці разумны парадак. А пакуль што яго ў нас няма.

Цікава, калі будзе ў нас нармальны ўрад, які разбярэцца ў бедах пенсіянераў?

**Вікенці ШТАЛЬ, пенсіянер.**

Брэст.

## У прызыўнікоў праблемы не толькі са здароўем, але і з ведамі

Амаль тры з паловай тысячы хлопцаў у Брэсцкай вобласці надзенуць гэтым летам армейскую форму. Адпраўка іх у воінскія часці пачнецца з 24 чэрвеня. Хаця агульная колькасць прызыўнікоў у вобласці цяпер значна большая — амаль дзесяць тысяч чалавек, многія з іх не трапяць на службу з-за праблем са здароўем.

Паводле даных медыцынскага агляду, толькі 15-20 працэнтаў патэнцыяльных абаронцаў Айчыны прызнаюцца абсалютна здаровымі. Упершыню работнікі ваенкаматаў з трывогай пачалі гаварыць і аб росце прызыўнікоў з няпоўнай сярэдняй адукацыяй, якіх не накіруеш у тыя ж мабільныя войскі, дзе патрэбна не толькі добрае здароўе, але і веды. На Брэстчыне лік такіх юнакоў-прызыўнікоў цяпер ідзе ўжо на сотні.

**Іван КУКСА.**

## Транспартнікі маюць намер збавіцца ад ільготнікаў

Чарговы раз Міністэрства транспарту і камунікацый узнімае пытанне аб ліквідацыі ўсякіх ільгот на праезд у грамадскім транспарце. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ва ўпраўленні аўтамабільнага транспарту, тут падрыхтаваны для перадачы ва ўрад і, адпаведна, на канчатковае зацвярджэнне прэзідэнту Беларусі праект дакумента "Аб рэалізацыі права на льготны праезд асобных катэгорый грамадзян". Асноўны прынцып, закладзены ў ім, — гэта патрабаванне ўстанавіць для ўсіх катэгорый грамадзян, якія маюць ільготы на праезд, пэўныя штомесячныя даплаты да пенсій, стыпендый, зарплат у памеры сярэдняй велічыні затрат за карыстанне аўтамабільным транспартам. А за праезд на транспарце яны павінны будуць плаціць на агульных падставах.

Калі гэтыя прапановы знойдуць падтрымку ва ўрадавых інстанцыях і будуць рэалізаваны, то, на думку транспартнікаў, сумы даходаў галіны значна ўзрастуць.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

У нашых суседзяў

## У Клайпедзе выкрыты цэнтр па вырабу фальшывых дакументаў

Служба нацыянальнай бяспекі Літвы выкрыла ў Клайпедзе цэнтр па вырабу фальшывых дакументаў і пячатак. Тут па заказу выраблялiся пропускі ў марскі порт, пашпарты розных краін, рэгістрацыйныя пасведчанні фірм, дыпломы вышэйшых навучальных устаноў. Але асобай крыніцай даходаў цэнтра быў выраб тэхнічных пашпартоў для выкрадзеных аўтамабіляў, расійскіх віз, а таксама мытных дакументаў для транзітных грузаў. Прычым агенты гэтага цэнтра працавалі практычна ва ўсіх гарадах Літвы, мелі сувязі са злачынцамі суседніх краін.

Праваахоўныя органы спадзяюцца, што следства па справе гэтага цэнтра дапаможа выкрыць многія злачынныя структуры не толькі ў Літве.

## У Літве – выбухованебяспечная канкурэнцыя

У нядзелю ў Каўнасе прагрымеў магутны выбух, у выніку чаго поўнасцю разбураны невялікі магазінчык харчовых прадуктаў, які палюбіўся пакупнікам за самыя нізкія цэны. У ім было закладзена выбуховае ўстройства з дыстанцыйным кіраваннем.

Як удалося высветліць карэспандэнту БелТА, такі ж лёс напаткаў бы і суседнюю краму, дзе па гарачых слядах паліцыя знайшла ўзрыўчатку. Аднак першы выбух пашкодзіў правады дыстанцыйнага кіравання, і другі выбух не адбыўся.

Гаспадары гэтых гандлёвых кропак упэўнены, што ў ролі мінёраў выступілі іх канкурэнты.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БелТА.**

## "Настальгія" па кандуктарах

Больш як 400 кандуктараў, якія будуць зноў вернуты ў гарадскі транспарт Брэста, набірае цяпер кіраўніцтва аўтобуснага парка і тралейбуснага ўпраўлення. Робіцца гэта, як запісана ў распараджэнні гарвыканкама, у мэтах павелічэння аб'емаў збору выручкі за праезд.

Асновай жа для ўвядзення канструктарскага абслугоўвання ў горадзе над Бугам паслужыў вопыт Пінска, дзе ўжо больш як два гады працуюць кандуктары і звыш 90 працэнтаў затрат на перавозкі пакрываецца за кошт аплаты праезду пасажырамі. У Брэсце гэта лічба ў мінулым годзе складала 78,2 працэнта, а ў красавіку бягучага — 86 працэнтаў.

## Пакаштаваць смажа не жадаеце?

Сезон нарыхтоўкі вінаградных смажоў адкрыў завод "Крынічка" брэсцкага СП "Яліна". Гэты жывы тавар тут прымаюць ад насельніцтва ў неабмежаванай колькасці па цане 6 тысяч рублёў за кілаграм.

На прадпрыемстве смажоў апрацоўваюць па асобай тэхналогіі і прадаюць у рэстараны і бары. Стравы з малюскаў карыстаюцца павышаным попытам у італьянцаў і немцаў, а вось большасць нашых суграмадзян не жадаюць паспрабаваць такую экзатычную ежу. Тым больш, што і цана на яе не менш экзатычная. Напрыклад, у брэсцкім рэстаране "Пекін" 10-12 смажоў, што прайшлі праз духавую шафу, ацэньваюцца ў 136 тысяч рублёў.

**Іван КУКСА, БелТА.**

## Курсы обмена наличных валют в коммерческих банках и официальный курс, установленные Национальным банком на 9 июня 1997 г. (по состоянию на 9.50)

| № п/п | Наименование банка | USD Покупка | USD Продажа | DM Покупка | DM Продажа | RUR Покупка | RUR Продажа | Телефон для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Минск (0-172) | | | | | | | |
| 1. | Абсолютбанк | 26750 | 26800 | 15400 | 15470 | 4,56 | 4,60 | 636-080 |
| 2. | Белагропромбанк | 26800 | | 15460 | | 4,56 | 4,60 | 285-716 |
| 3. | Белбизнесбанк (гл. опер. упр.) | 26600 | 26800 | 15320 | 15470 | 4,58 | 4,60 | 271-960 |
| 4. | Белбизнесбанк (гор. дир.) | 26550 | 26800 | 15350 | 15470 | 4,55 | 4,60 | 271-960 |
| 5. | Белвнешэкономбанк | 26550 | 26800 | 15320 | 15474 | 4,55 | 4,60 | 267-022 |
| 6. | Главное управление НБ по г.Минску и Минской обл. | 27000 | — | 15600 | — | 4,60 | — | 266-441 |
| 7. | Троицкое отд. ГУ НБ по г.Минску и Минской обл. | 27000 | — | 15600 | — | 4,60 | — | 686-774 |
| 8. | Минский транзитный банк | 26650 | 26800 | 15320 | 15470 | 4,56 | 4,60 | 132-916 |
| 9. | Ф-л "Милавица" АКБ "Минский транзитный банк" | 26700 | 26800 | 15370 | 15470 | 4,58 | 4,60 | 372-825 |
| 10. | Ф-л Мосбизнесбанка | 26600 | 26800 | 15350 | 15470 | 4,56 | 4,60 | 286-278 |
| 11. | Народный банк | 26650 | 26800 | 15400 | 15470 | 4,58 | 4,60 | 238-610 |
| 12. | "Новоком" | 26540 | 26800 | 15320 | 15470 | 4,56 | 4,60 | 603-402 |
| 13. | Приорбанк | 26540 | 26800 | 15380 | 15470 | 4,56 | 4,60 | 455-721 |
| 14. | РРБ | 26540 | 26800 | 15320 | 15470 | 4,56 | 4,60 | 355-443 |
| 15. | Ф-л № 3 "Гарант" АСКБ "Технобанк" | 26790 | 26800 | 15320 | 15474 | 4,58 | 4,60 | 331-917 |
| 16. | СКБ "Технобанк" | 26700 | | 15370 | | 4,58 | | 342-242 |
| 17. | "ФФФ" | 26790 | 26800 | 15420 | 15474 | 4,59 | 4,60 | 621-601 |
| 18. | Национальный банк РБ (курс для безналичных расчетов) | 26800 | | 15474,33 | | 4,60 | | |
| 19. | Центробанк России | 5777.00 | | 3336,99 | | 100 BRB—16.89 | | |

**Информация предоставлена ПКФ "Агентство Гревцова". Тел.\факс (017) 262-16-17.**

Мысли вслух

## "Интеграсты" всех стран, соединяйтесь!

**Анатоль ЛЕБЕДЬКО,**
**заместитель председателя ОГП, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 12-го и 13-го созывов**

### 1. Отцвел интеграционный сад весны-97

Для граждан Беларуси и России весна не просто временная пора, но и начало нового политического года. Становится традицией в этот период подписывать какой-нибудь эпохальный судьбоносный документ (договор, устав). В Москве он скрепляется подписями президентов, в Минске — кровью демонстрантов. Там рабочий инструмент — паркер с золотым пером, здесь — милицейская дубинка ПР-43.

Усилиями политиков интеграция на части постсоветского пространства превратилась в ходовой товар. По весне спрос превысил предложение, и акции интеграции резко подскочили в цене на политических рынках Минска и Москвы. Пик интеграционного бума пришелся на 23 мая — день подписания Устава Союза Беларуси и России. Однако уже через день растормошенный, заинтригованный российский обыватель обнаружил, что интеграционная реклама вдруг исчезла из лексикона обитателей Кремля и Белого дома, с экранов всех телеканалов, с газетных полос российских изданий.

Интеграция — товар сезонный. Он особенно хорошо идет в период обострения борьбы за власть, во время нарастания экономического, политического кризиса. Поэтому следует ожидать, что весной 98-го отрепетированный сценарий повторится. Через год обнаружится, что созданный Союз — ничто, конфедерация — все. К этому времени политики отольют новые "интеграционные пули" для "отстрела" своих оппонентов.

Каковы же основные итоги политических баталий, развернувшихся на интеграционном поле нынешней весной? Игроки в политическую рулетку остались при своих интересах. Подтверждением этому является то, что практически все политические группы, властные структуры относят апрельско-майский период в свой актив.

У А.Лукашенко есть все основания быть удовлетворенным итогами весны-97. Увлекшись подковерной борьбой, заигрыванием с антиельцинской коалицией, белорусский президент не заметил, как стал заложником своего любимого дитяти — интеграции. По существу, он был загнан в угол. Немедленное объединение Беларуси и России так логично и естественно вытекало из того, что делал, о чем говорил Лукашенко. Для последнего это однако означало закат политической карьеры. Судьба Александра Григорьевича решалась в Кремле. Дожимать к ковру Лукашенко не стали. Видимо, исходя из американского принципа: "Сомоса — сукин сын, но наш сукин сын".

Россия еще раз продемонстрировала, что среди местной политической элиты замены Лукашенко пока нет. Москва, видимо, полагает, что ей удалось (или удастся) создать такой механизм взаимоотношений с Александром Григорьевичем, который позволит полностью нейтрализовать импульсивного белорусского интегратора. Что ж, грядущая осень покажет, насколько обоснованна такая позиция.

Осенью в России следует ожидать событий, способных кардинально повлиять на ситуацию и изменить расклад политических сил. Вероятность досрочных парламентских выборов велика. Кто нанесет решающий укол, тот и будет олицетворять Россию XXI века. Не исключено, что антиельцинская коалиция не преминет использовать А.Лукашенко для штурма кремлевских стен. И вот тогда станет ясно, насколько далеко смотрели аналитики российского президента.

У официальной Москвы вроде бы также нет причин для недовольства. Ельцину даже удалось на какое-то время перехватить интеграционную инициативу у главного интегратора. Российский президент профессионально сыграл на объединительных чувствах большинства россиян и частично получил индульгенцию за Беловежские соглашения.

Российское руководство остановило выбор на самом дешевом варианте присоединения Беларуси. Это тактика "экономической удавки", наброшенной на изолированную от внешнего мира Беларусь. Здесь имеет место внутрисоюзное разделение труда. А.Лукашенко блестяще справляется с задачей международной изоляции, а экономические щупальца российских естественных монополий и вскормленного, отнюдь не с молочными зубами, российского бизнеса, не имея ни конкуренции, ни альтернативы, становятся все чувствительнее. 23 мая в белорусском "корабле" появилась еще одна пробоина. Внешне небольшая, но уйти в открытое море стало еще проблематичнее. Москва уверена: если белорусский "корабль" затонет, то у российских берегов.

Нельзя отнести к проигравшим и белорусскую оппозицию. Ее голос был услышан в европейских столицах. Не только удалось отстоять государственность Беларуси, но и создать предпосылки для изменения общественного мнения по поводу интеграционных перспектив. За периодом ожиданий грядет время разочарований. Новый союзный договор не несет никаких юридических последствий. Ратифицированный нелегитимной "палатой", он не будет признан мировым сообществом, а значит, его ценность в международно-правовых отношениях равна нулю.

Весна прошла. И только неутомимый Александр Григорьевич в одиночку пытается удержать интеграционную планку на уровне 23 мая 1997 года. Местное TV, белорусская "фабрика грез", ежедневно вкрапляет в сознание граждан Беларуси девиз: "Ваше счастливое завтра есть интеграция плюс А.Лукашенко". Несомненно, это следствие нервного стресса, пережитого главой государства в мае. А также того, что на ближайшие 2—3 года интеграция наряду с государственностью становится темой № 1 в Беларуси. Вокруг нее будет вращаться все — президенты, оппозиция, политика, экономика, референдумы, народ, страна. Не закружилась бы только голова.


**(Продолжение в следующем номере.)**


Чытач – газета

## Мы зноў разам!

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Пішу Вам упершыню, хоць "Народную волю" выпісваем з дня заснавання. Вось і зноў падпісаліся — на другую палавіну 1997 года. Падпісаліся, нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча. Як жа адмовіцца ад цікавай, праўдзівай газеты, якая адлюстроўвае ўсе бакі нашага нялёгкага жыцця? А яшчэ — яе могуць чытаць прыхільнікі як беларускай, так і рускай мовы. Дзякуй за такую газету! Мы ўсёй сям'ёй зычым Вам творчага натхнення, плённай працы, поспехаў у нялёгкай справе, удачы і галоўнае — здароўя. Мы разам з Вамі, а значыць, з "Народнай воляй"!

**З павагай —**

**Наталля ХАНЕНЯ, выхавацель я/с № 155.**

Гомель.

Проясним...

## Российское "Яблоко" призывает Александра Лукашенко немедленно инициировать демократические выборы

Как уже сообщалось, Российская Дума ратифицировала Договор о Союзе Беларуси и России. Не торопиться с этим предлагали лишь депутаты фракции "Яблоко" во главе с известным политиком Григорием Явлинским. Чем они руководствовались? Накануне голосования фракция распространила заявление Г.Явлинского, в котором говорилось:

*"Уважаемые депутаты!*

*Считаю необходимым довести до Вашего сведения мотивы, которыми руководствуется часть депутатов фракции "Яблоко" при голосовании по ратификации Договора о Союзе Беларуси и России.*

*Нам чрезвычайно дорога идея глубокой интеграции наших народов. Но именно поэтому мы не можем игнорировать тот факт, что Национальное собрание Беларуси в его нынешнем виде не может считаться легитимным парламентом, поскольку составляющие его депутаты избирались не в этот орган, а в Верховный Совет 13-го созыва, имевший принципиально иные конституционные полномочия. Мы не можем также оставить без внимания то обстоятельство, что 88 депутатов Верховного Совета Республики Беларусь были принудительно лишены своих мандатов, а их избиратели — представительства в высшем законодательном органе. Крайнюю озабоченность вызывает у нас и то, что кризис легитимности в Беларуси повлек за собой международную изоляцию братской страны. Наивно полагать, что в подобной атмосфере дело интеграции имеет шансы на успех.*

*Закрыв глаза на все эти факты при ратификации договора, Государственная Дума не только нанесет очевидный вред белорусскому народу, но и откроет дорогу аналогичному произволу в самой России.*

*Мы призываем руководство Беларуси немедленно инициировать процесс демократических выборов в Национальное собрание. При отсутствии легитимных государственных органов хотя бы у одной из сторон договора здание интеграции будет строиться на песке.*

*В связи со всем изложенным мы считаем целесообразным отложить ратификацию Договора о Союзе Беларуси и России и Устава Союза Беларуси и России вплоть до того момента, когда этот документ будет ратифицирован законно избранным белорусским парламентом. В случае отклонения данного предложения Государственной Думой мы воздержимся от голосования за ратификацию".*

К голосу фракции "Яблоко" Государственная Дума не прислушалась. Правильно ли сделала — покажет время.

**Антон КУПРИЯНЕНКО.**

Дабрачыннасць

## Беларускія медыкі выказваюць падзяку Джорджу Сорасу

У Нью-Йорк у адрас Інстытута "Адкрытае грамадства" (дабрачыннай арганізацыі, якая створана і ўзначальваецца Джорджам Сорасам) прыйшло пісьмо з аддзела мацярынства і дзяцінства Міністэрства аховы здароўя нашай рэспублікі. У ім выказваецца падзяка за падтрымку міжнароднай акцыі "Дзіцячае сэрца", якая праводзілася ў Мінску ў снежні мінулага года амерыканска-беларуска-ўкраінскай брыгадай хірургаў пад кіраўніцтвам прафесара Вільяма Новіка.

У ходзе гэтай акцыі былі праведзены аперацыі на адкрытым сэрцы ў 33 беларускіх дзяцей, што дало магчымасць захаваць жыццё большасці з іх. Акрамя таго, беларускія хірургі, анестэзіёлагі, спецыялісты па неадкладнай дапамозе і медсёстры атрымалі рэдкую магчымасць набыць унікальны прафесійны вопыт.

"Такія сумесныя намаганні садзейнічаюць развіццю супрацоўніцтва паміж нацыямі і дзяржавамі,— гаворыцца ў пісьме, падпісаным начальнікам аддзела Зінаідай Сяўкоўскай. — Мы спадзяёмся, што наша сумесная работа з прафесарам Новікам і ўзначальваемым ім Міжнародным фондам "Дзіцячае сэрца" будзе прадоўжана на карысць развіцця сістэмы аховы здароўя ў нашай рэспубліцы і дружалюбных адносін паміж нашымі краінамі. Ад імя выратаваных дзяцей, іх бацькоў, урачоў, якія прымалі ўдзел у гэтай акцыі, а таксама ад супрацоўнікаў Міністэрства аховы здароўя выказваем падзяку вам за вашу дапамогу, разуменне і клопат".

**Эдуард ПІВАВАР, БелТА.**

### Устаноўлены дыпадносіны з Саудаўскай Аравіяй

У Маскве 6 чэрвеня падпісаны пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Каралеўствам Саудаўскай Аравіі. З беларускага боку дакумент падпісаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Расійскай Федэрацыі Віктар Даніленка.

**БелТА.**

Шчыры роздум

# Дэградацыя грамадства пачынаецца са здзеквання над мовай

*Жыве ў вяках беларускае слова —*
*Народа душа і народа хвала.*

**А.Бачыла**

З матчыных вуснаў чутае роднае слова саграе нас сваім цяплом, дае нам жыццёвыя крылы, дае права звацца чалавекам на пачатку жыццёвага шляху.

З яго замілаванасцю, каштоўнасцю, з яго гаючасцю звязаны нашы духоўныя і маральныя якасці, нашы лепшыя чалавечыя набыткі.

Родная мова — гэта акенца ў мінулае, сувязь з будучым, гэта душа народа, жывая і трапяткая. А душа бессмяротная, значыць, бессмяротная наша мова, якая з'яўляецца сведкай высакароднай і ўзвышанай душы беларуса.

У нашым грамадстве за апошнія дзесяцігоддзі адбыліся выніковыя зрухі ў навуцы, асваенні космаса, у развіцці тэхнічнага прагрэсу...

Ды ці трэба даказваць, калі гэта вядома кожнаму. І вельмі добра, што не стаялі на адным месцы.

Але калі прыгледзецца, якія ж зрухі адбываюцца ў развіцці культуры, духоўнага патэнцыялу, дык не скажаш, што мы рухаемся наперад.

Адбываецца рэформа ў развіцці школы — як вышэйшай, так і агульнаадукацыйнай. Нейкія захады прымае Міністэрства адукацыі.

Аднак прагрэсіруе дэградацыя грамадства, дэградацыя асобы. Тыя добрыя рысы памяркоўнага, сардэчнага, разважлівага, чулага, працавітага беларуса паступова выраджаюцца, усё часцей і часцей мы сустракаем людзей, якія толькі знешне, па вопратцы лічацца людзьмі.

Ніяк нельга прыпыніць разбой, крадзеж, п'янства, сіфіліс, СНІД, і ўсе гэтыя "каштоўнасці" з кожным днём узрастаюць. Атрымоўваецца чамусьці так, што ўсе як бы згаварыліся працаваць не на карысць чалавека, а наадварот, адвучыць яго ад устанавіўшыхся прынцыпаў, традыцый, запаведзяў Бібліі.

Дыктар нашага роднага тэлебачання замест *будаўніцтва* **двух** *касцёлаў* паўтарае некалькі разоў *будаўніцтва* **дзвюх** *касцёлаў*, замест *пытанне* вымаўляе на магілёўскім дыялекце — *патанне*.

Можа, хто-небудзь будзе разважаць, што гэта не мае ніякага значэння. Асноўнае — палітыка, эканоміка.

Не, людцы, гэта не толькі прыкра, але і прыклад для слухача, тэлегледача, падлетка, дзіцяці.

Памятаеце, калі будаўнік камунізма М.С.Хрушчоў не мог па сваёй неадукаванасці вымавіць правільна гэтае слова, ён вымаўляў *камунізьм*. Але ж і цяпер пакаленне тых гадоў, а нават і больш маладзейшыя прадаўжаюць вымаўляць так, як вымаўляў сам генеральны сакратар ЦК КПСС.

А як не ўмеў размаўляць ужо з адукацыяй землямернага тэхнікума Л.І.Брэжнеў (гэта і *договор, иначе* і колькі яшчэ сыпаў смецця на галовы людзей. Нават у тлумачальным слоўніку рускай мовы з'явіліся побач два словы: *иначе* і *иначе*.

А памятаеце, калі ўжо адукаваны М.С.Гарбачоў хацеў надаць нейкае больш эмацыянальнае і змястоўнае значэнне слову *мышление*, вымаўляў *мышление*. Паўдзяржавы ўзапар, зразу ж забыўшыся пра тлумачальны слоўнік, сваю адукаванасць, культуру, сталі ламаць сваё правільнае вымаўленне, хаця б патрапіць так, як вымаўляе М.С.Гарбачоў.

А колькі смецця высыпае на галовы слухачоў наша тэлебачанне ў тых перадачах, якія прызначаюцца дзецям!

З якога гэта часу сталі выхаўваўчымі такія словы ў "мульціках", як *балбес, чокнуты, крэцін, балдзёжна, клёва, класна?..* З рэкламы гучыць: "Класны фруктовы сок, проста абалдзенна".

Пугачова ў сваім выступленні карыстаецца такім выразам, як *класны мужык*. Два словы і два жаргоны.

А прыслухайцеся да выступленняў нашых чыноўнікаў і па тэлебачанні, і па радыё, і на розных сходах, форумах. Рэдка хто правільна вымавіць *дагавор*, на рускай мове *свекла*, стараюцца нават тлумачыць, што *свякла* — гэта на беларускай мове. Дык не, даражэнькія, па-беларуску — *буракі*.

Задумайцеся, як гэты чалавек атрымаў адукацыю і ці вучыўся наогул.

А ці толькі ён у гэтым вінаваты? Чаму маўчыць Міністэрства культуры і адукацыі? Ці гэта вам не даспадобы?

Перад урадам краіны стаўце патрабаванне, каб кожны — ад прэзідэнта і да самага маленькага начальніка — перад тым як выступаць, звяртаўся да кансультанта, які б папраўляў, вучыў. Можна ж мець у кожнай установе хоць адну адукаваную асобу. І хай гэтая асоба зацвярджаецца загадам і нясе адказнасць. А тым, хто сыпле смецце на галовы другіх, забараніць выступаць, а калі не падрыхтаваўся — штрафаваць.

Такая іх мова, я думаю, ад лянoты, ад таго, што яму ўсё дазволена, ад таго, што ўжо даўно не чытае літаратуру. Не вораг жа ён свайму народу і робіць усё гэта з намерам.

Ёсць прымаўка: "Слова не верабей, выляціць — не зловіш".

Прыслухайцеся да размовы дзяцей у садку, у школе, паглядзіце, якім стаў іх слоўнік. *Нармальна, класна, абалдзенна, блін...* А ці не заўважалі вы за людзьмі старэйшага ўзросту, як ім цяжка аб чым-небудзь расказваць? Пачынаецца шматразовае паўтарэнне слоў *гэта самае, гэта самае*, затым — *блін, бляха-муха*, а калі нічога не атрымоўваецца, гучыць пяціпавярховы мат.

І не трэба думаць, што гэта толькі знешне прыкра. Ой, як глыбока западаюць гэтыя словы сваім зместам у светапогляд чалавека, некаторыя становяцца кірункам светапогляду цэлых пакаленняў. А колькі яны прынеслі пакут?

Таму яшчэ раз мне асабіста хочацца сказаць:

*Матчына мова, родная мова,*
*Лепшая ў свеце, здаецца.*
*Ты — маё самае роднае слова,*
*Веру: яно назаўжды застанецца.*
*Выстаіць зноў, як і ў тыя часіны,*
*Змрочныя, цяжкія годы няволі.*
*Выстаіць, новыя далі раскрые*
*І не памрэ ўжо ніколі.*

**І.КАРПОВІЧ,**
**выдатнік народнай асветы Рэспублікі Беларусь, настаўнік 10-й сярэдняй школы г.Слоніма.**

*Найдите хоть одну фразу, где я пренебрежительно отозвался о белорусском языке. Найдите и покажите. Не найдете. Я уплачу миллион долларов. Найдите и мне пришлите. Никогда не было этого. Это опять выдумки оппозиции.*

***Александр ЛУКАШЕНКО.***
*"Независимая газета", № 97, 29 мая 1997 г.*

*Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык — бедный язык. В мире существует только два великих языка — русский и английский.*

**Александр ЛУКАШЕНКО.**
*Из выступления на сессии Гомельского горсовета 1 декабря 1994 г.*
("Имя", № 22.)

# "Справа" супраць Грушавога пашытая белымі ніткамі. Так лічаць спецыялісты фонду "Дзецям Чарнобыля"...

Днямі работнікі фонду "Дзецям Чарнобыля" атрымалі акт праверкі іхняй работы, якая нарабіла столькі шуму ў нас і за мяжой. Якія прэтэнзіі да вядомай грамадскай структуры? На падставе чаго ўзбуджана крымінальная справа супраць яе кіраўнікоў?

Як растлумачыў нам выканаўчы дырэктар фонду Міхаіл Казлоўскі, абвінавачанне пашытае белымі ніткамі. У якасці галоўнага парушэння падаецца факт, што нібыта дзяржаве нанесены ўрон у суме 15 тысяч нямецкіх марак. Адкуль узялася такая сума? Аказваецца, фонд атрымаў у 1991—1992 гадах тэхніку на суму 71 тысяча беларускіх рублёў. З яе ўплачана пошліна ў суме 15 тысяч рублёў. Дык вось работнікі мытні, якія давалі факты правяраючым, чамусьці замест "рублёў" напісалі "нямецкія маркі". Выходзіла, нібыта фонд атрымаў тэхнікі на 71 тысячу нямецкіх марак. Вось адсюль і "выплылі" гэтыя 15 тысяч нямецкіх марак, якія нібыта не даплацілі. Высмактаныя з пальца і іншыя "факты".

Выканаўчы дырэктар фонду "Дзецям Чарнобыля" паведаміў, што яны зрабілі ў свой час запыт у мытны камітэт наконт іх дадзеных для правяраючых. Прайшлі ўсе тэрміны, але адказу адтуль не атрымалі. Прыйшлося самім пакапацца ў архівах і адшукаць гэтыя "казусы". Спецыялісты фонду рыхтуюць сваё заключэнне па акту праверкі.

**Алесь ДРАБЧУК.**

Конфликт

# Как инвалида-чернобыльца свозили в... психушку

От поездки в поселок Аксаковщину, где расположена клиника НИИ радиационной медицины, Михаил Васильевнич Сачков, принимавший участие в ликвидации катастрофы на ЧАЭС, ожидал многое. Думал, если не поправит основательно здоровье, то хотя бы подышит той дружеской и всепонимающей атмосферой от встреч с собратьями по несчастью — ликвидаторами и их спасителями — врачами-радиологами.

Надеялся на человеческое участие специалистов. А ему, инвалиду II группы, ох как нездоровится, болезнь все чаще и чаще дает о себе знать. Поэтому его "рабочим" адресом и стала улица Красноармейская, 15, где находится Республиканский диспансер радиационной медицины.

Столь подробно указываются адреса и наименования лечебных учреждений не случайно, чтобы потом их назвать проще — диспансер, клиника и т.д. И более того — подчеркнуть их родственность. Объединяет и "роднит" их именно радиационная медицина.

Так вот, главный врач диспансера Валерий Александрович Ржеутский, подписывая инвалиду-ликвидатору Сачкову направление в Аксаковщину, учитывал, разумеется, общее недомогание больного, в том числе и участившиеся боли в области сердца.

Не поговорив, не выслушав, как следует, не узнав тревог Михаила Васильевича, связанных с ухудшающимся состоянием здоровья, заведующая терапевтическим отделением клиники в Аксаковщине В.Шикова как-то резко сказала:

— Да знаете, где ваше место? На Бехтерева, 3. А сюда вы попали не по профилю...

Огорошенный в буквальном смысле посетитель подобной "экзекуции" от Валентины Николаевны не ожидал. Особенно после того, как ему пояснили, что там не что иное, как Городской психоневрологический диспансер...

— Мне стало сразу плохо от этих издевательств, я как-то чудом сдержался, — вспоминает Михаил Васильевич. — Сдавило сердце. Такой боли ранее никогда не чувствовал. Думал: инфаркт обеспечен. Только к понедельнику, через неделю, еле-еле отошел...

Много раз говорено: слово может лечить и ранить. Можно понять душевное состояние Сачкова, получившего большую дозу радиоактивного облучения, в том числе головного мозга, когда ему не говорят деликатно, что нелишне бы пройти обследование у специалистов неврологического отделения для выяснения общей картины заболевания, а сразу чуть ли не объявляют... "психически больным". Кстати, психотерапевты и психоневрологи этот "диагноз" отвергли-опровергли. И здесь впору затронуть проблему медицинской этики. Недаром говорят: сколько врачей, столько характеров...

Но предоставим слово инвалиду-чернобыльцу Сачкову:

— Доставили меня в Новинки. Как и принято, в приемный покой... Врач очень хорошо отнеслась, поинтересовалась, какой именно ВТЭК установлена группа. Сообщил ей, что проходил спецВТЭК для инвалидов ЧАЭС при институте экспертизы, что на Староборисовском тракте. Эта обходительная и вежливая женщина ненавязчиво расспросила меня о болячках, житье-бытье... Чутки и внимательны были и другие врачи этого, как принято считать, "страшного" заведения. Я, признаюсь, с большим удовольствием пообщался с этими людьми в белых халатах, чем с теми, кто хотел меня сюда упрятать. Когда покидал "психушку", санитар, такой разговорчивый и, как показалось, душевный человек, сказал мне: "Не удалась у них затея. Что было спланировано, не вышло..."

А предыстория "спецрейса" по маршруту Аксаковщина — Новинки начиналась необычно. Приняв намек о своем размещении "не по профилю" от зав.отделением Шиковой, пациент Сачков пытался образумить "доктарку", что попал именно в "свою" клинику. Для ликвидаторов-чернобыльцев. А та в ответ, что ей, врачу, мол, виднее, где и кого лечить. И намекнула... И добавила "прямым текстом", назвав адрес: Бехтерева, 3...

Поначалу Михаил Васильевич проглотил обиду, сдержался. А потом уже, когда Шикова стала душещипательно "развивать" тему, строго попросил ее оставить палату. ("Считайте, что выгнал", — откровенничал Сачков.) И, настигнув обидчицу в коридоре, с глазу на глаз высказал ей много нелицеприятных слов. ("Сказал все, что о таких, как она, думаю. В выражениях не стеснялся. Заслужила!" — уточнит "во имя торжества правды" Сачков.)

Такого поворота событий не ожидала привыкшая властвовать заведующая отделением Шикова. Ее слово — закон. Для подчиненных и больных в особенности. А тут... народное "инакомыслие"? Не принимает, видите ли, ее доводов больной. Что предпринимает Валентина Николаевна?

Она тут же собирает консилиум ("Из лояльных, преданных ей врачей", — заметит Сачков), а на следующий день заявляет... (не напоминает ли сие бумеранг?) уже обидчику Сачкову, что его направляют на Бехтерева, 3, не в диспансер, а в стационарное отделение. Или...

— Ох, и порядки, — вздохнул Михаил Васильевич и от себя вслух, чтобы слышали все, добавил: — Пошел приглашать корреспондента радио "Свобода"...

Телефон ему "заботливо" отключили.

Тогда он направился к главврачу клиники тов. С.С.Корытько и заявил, что, возмущенный пренебрежительным к себе отношением, объявляет голодовку. И готов подтвердить это письменно, коль есть в том нужда. Но "нужды", естественно, не было. И Михаил Васильевич потихоньку сошел по ступенькам вниз. Якобы подышать свежим воздухом. А сам направил стопы к телефону-автомату, что установлен в главном корпусе. Не успел набрать номер корреспондентского пункта радио "Свобода", как подошли трое: один в штатском костюме, а двое... да, в белых халатах. И говорят: пройдемте-де, гражданин... Тут же саморучно изготовленную, а потому более всего ценимую клюку отняли (она у Михаила Васильевича вместо трости), приняв, видимо, за стреляющий предмет. В целях, наверное, предосторожности.

— Без своего кия не могу идти я, — срифмовал Сачков, не на шутку рассердившись.

— Не волнуйся, мы тебя донесем! — и двое натренированных медбратов-молодцов привычно схватили "психически" больного, насильно притащили в палату, изъяли, описав, личные вещи и... "загрузили" в машину "скорой помощи", которую, как догадывается читатель, не менее предусмотрительно вызвала тов. Шикова. Чем закончился эксперимент Валентины Николаевны, уже известно...

Михаила Васильевича Сачкова же беспокоит несколько иная проблема. Почему в Аксаковщине, в клинике НИИ радиационной медицины немало "посторонних", не имеющих отношения к Чернобылю, а для больных ликвидаторов, инвалидов — тех, кто, без намека на высокопарный слог, Европу заслонил собой, не всегда есть места. Для них, оказывается, "профиль не тот" или что-то в этом роде. Что угодно могут придумать медики типа Шиковой, лишь бы сплавить больного.

Таких "чудес" успел насмотреться Сачков за непродолжительное время пребывания в клинике. По блату в Аксаковщине, считает Михаил Васильевич, местечком можно всегда запастись. И высказывает сомнение-предположение: не правит ли в клинике бал его Величество Зеленый дензнак? Потому что о нем, долларе, столько разговоров в палатах...

Нет, совсем не сумасшедший он, Михаил Васильевич Сачков, которого, возможно, и приняла за такового заведующая терапевтическим отделением клиники. Наверное, он действительно являл собой образец... отклонения от нормы: с подарками ни к кому из врачей не лез, с подношениями, вроде "хочу отблагодарить", не приставал, говорил то, что думал...

**Виктор СВИРКО.**

Сітуацыя

# Калі краіна менш прадае, чым купляе...

На гэты раз статыстычныя лічбы сур'ёзна занепакоілі кіраўнікоў і спецыялістаў буйнейшых прадпрыемстваў Мінска і Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Як вядома, Беларусь мае вялікае адмоўнае сальда. Гэта значыць, што краіна менш прадае тавараў за мяжой, чым завозіць да сябе. Пры такой сітуацыі можна хутка застацца без валюты зусім.

Многія прадпрыемствы Мінска ўвогуле выпускаюць канкурэнтаздольную прадукцыю, але не могуць удала яе збыць. Справа ў тым, што на экспартным шляху шэраг перашкод. Возьмем аб'яднанне "Інтэграл". Каб узняць якасць сваёй прадукцыі, яму неабходна закупіць за мяжой сучасныя матэрыялы і камплектуючыя. Для чаго, як вядома, патрэбна валюта. Спецыялісты яе знаходзяць. Яны самі могуць закупіць усё неабходнае, але пры перасячэнні мяжы і на Радзіме трапляюць пад такія паборы, якія рэзка ўзнімаюць цану канчатковых вырабаў і яны становяцца ўжо неканкурэнтаздольнымі.

Падобных праблем хапае. Як іх пераадолець? Вось аб гэтым і пойдзе ў канцы месяца сур'ёзная размова на выязным пашыраным пасяджэнні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, якое адбудзецца на вытворчым аб'яднанні "Інтэграл". Аб гэтым нам паведаміў дырэктар па прававому забеспячэнню і інфармацыі БНПА Віталь Сеўрукевіч. Ён таксама паведаміў, што ў гэтыя дні праводзіцца шэраг нарад спецыялістаў вядучых прадпрыемстваў. Асацыяцыя мае намер глыбока вывучыць праблему і выпрацаваць меры па аздараўленню эканомікі, стварэнню спрыяльных умоў для экспарцёраў. Гэтыя прапановы затым будуць накіраваны ва ўрад.

Усе, каго хвалюе названая праблема, могуць звязацца па мінскаму тэлефону **2-277-377**.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

Сочувствуем

# Банкир погиб в столкновении с "новыми белорусскими"

*Эта заметка появилась на днях в московской прессе. Мы не можем ее не заметить, поскольку речь идет о том, что пострадали наши соотечественники.*

Два человека погибли и пять получили ранения ночью на 1-й Останкинской улице, где столкнулись "БМВ" и минивэн "Додж-караван". Когда в Останкино приехал репортер "МК", на месте заканчивала работу московская служба спасения — пострадавших пришлось извлекать из автомобилей с помощью спецтехники. Итог катастрофы оказался печален — два трупа и пять пострадавших.

Сотрудники ГАИ рассказали "МК" о подробностях трагедии. Старая "БМВ-325" с белорусскими номерами ехала по 1-й Останкинской в сторону центра, а "Додж" — ей навстречу. В районе дома 5 "Додж" неожиданно вылетел на встречную и врезался "БМВ" в лоб. От сильного удара передние части машин сплющило. Водитель "БМВ", к счастью, отделался лишь переломом ключицы, незначительные травмы получили и его пассажиры. Сидевшим в минивэне повезло меньше. Двое мужчин, сидевших на передних сиденьях, погибли на месте.

По словам милиционеров, виновником аварии, безусловно, был 42-летний водитель "Доджа" г-н Воробьев (он работал председателем правления одного из столичных банков). Сотрудники ГАИ не исключают, что банкир сел за руль навеселе.

Стоп-кадр

Основным своим назначением художественный салон "БелАрт" в Бресте избрал проведение выставок и продажу произведений художников. Здесь же можно будет приобрести изделия народных умельцев, работы мастеров Хохломы, Гжели, Урала.

Открылся салон персональной выставкой живописи и графики брестского художника Александра Григорьева, известного своим творчеством не только здесь, но и в Польше, где долго работал.

**На снимке:** *художник Александр Григорьев.*

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

Ініцыятыва

# Жанчыны вырашылі актыўна і, галоўнае, арганізавана адраджаць Бацькаўшчыну

На першым пасяджэнні арганізацыйнага камітэта беларускага жаночага руху "За адраджэнне Бацькаўшчыны", што адбылося ў памяшканні штаб-кватэры БНФ, ішла зацікаўленая размова аб мэтах будучай жаночай арганізацыі.

Жанчыны — сябры БНФ вырашылі стварыць шырокі, масавы жаночы рух за адраджэнне нашай Радзімы, яе мовы, культуры. За вяртанне Беларусі на шлях цывілізаванага развіцця эканомікі, знешніх сувязей. За вяртанне нашай Бацькаўшчыны ў сям'ю еўрапейскіх народаў.

Яны выказаліся супраць "беспредела" ўлады, маральнага і фізічнага прыніжэння людзей. "Мы супраць аўтарытарызму і дыктатуры. Мы за шчасце нашых дзяцей, за іх годную будучыню. Мы за свабодную, незалежную, дэмакратычную Беларусь", — падкрэсліваецца ў прынятай сумеснай пастанове.

**Таццяна ВАНІНА,**
**выконваючая абавязкі старшыні аргкамітэта беларускага жаночага руху "За адраджэнне Бацькаўшчыны".**

Жажда славы?

# Мелкие пузыри Ханка на... волне популярности Пугачевой

Справедливости ради отмечу: я не являюсь горячим поклонником, тем паче — фанатом творчества народной артистки СССР, эстрадной звезды первой величины Аллы Пугачевой. Но не скрываю и того, что зачастую восторгаюсь ее своеобразной манерой песенного исполнения, артистизмом, умением покорить и очаровать зрителя. На фоне кривляний, выбрасывания коленок и голопствующих скачек Маши Распутиной (хотя и это дело художественного вкуса и зрительского восприятия каждого) Алла Борисовна выглядит, безусловно, примадонной российской эстрады. Кстати, она блестяще сочиняет тексты песен, пишет к ним душевную музыку. Певица, композитор, поэт... Согласитесь, Алла Пугачева — не просто широко популярное имя на эстраде, а настоящее явление эстрадной жизни, если хотите, целая эпоха. Недаром ходил при жизни Леонида Ильича анекдот, что Брежнев — политический деятель... времен Аллы Пугачевой. Так канули ли в Лету, прошли ли лучшие времена для известной певицы?

Усомниться в этом и убедить других несколько лет кряду безуспешно пытается Эдуард Ханок, чье имя на белорусской эстраде достаточно привычное слуху. Хотя и стал Эдуард Семенович народным артистом Республики Беларусь, но известность, зачем замалчивать, у Аллы Борисовны помасштабнее и в творческом плане, да и "чисто географически" — с пространственным размахом ее популярности сравниваться осмелится не каждый. Я уже не говорю об организаторских и предпринимательских способностях: издает Пугачева в Москве пользующийся спросом (и не только среди лучшей половины человечества) журнал "Алла", десятилетиями готовит артистов эстрады в "своем" театре песни, ставшем настоящей студией, многие из которых стали известными и очень известными, сейчас вот занялась разработкой самой модной, точнее — модерновой "обуви Пугачевой", открыла фирменный магазин. Словом, деловитости и активности первой леди эстрады можно только позавидовать.

Что касается истории, в ее анналах знаменитая певица давно застолбила себе почетное место. Аллу Пугачеву семидесятых, восьмидесятых, девяностых по популярности можно, пожалуй, сравнить с Клавдией Шульженко сороковых... Словом, выдающаяся певица — и этим все сказано.

Другого мнения Эдуард Ханок, уже несколько лет шумящий и саморекламирующий свою "теорию"-книгу под загадочным названием "Алла в законе волны". "Открытием" автора является... цикличность, смена (читайте: перепады) у творческих людей взлетов и падений популярности. Как и всему живому в природе, творчеству, разумеется, ведомы пики-вершины и предгорья, горы и долины, морские приливы и отливы...

Какую же пену нагоняет на волну популярности Пугачевой белорусский композитор? Узнав о выступлении прославленной артистки на конкурсе Евровидения, Эдуард Ханок не без злорадства не преминул заметить: "Итоги говорят сами за себя. И этот факт, на мой взгляд, превосходно вписался в несколько экзотический эпилог моего творения".

Забыл только кардиограф творчества Пугачевой одну особенность — определенную стабильность уровня исполнения: как и здоровое сердце творит впечатляющую, без особых отклонений кардиограмму, так и творческий человек может "созидать" в зависимости от состояния души: чуть лучше (вдохновенно!) и... чуть хуже (без оного). Но мастер на то и мастер: у него личное клеймо. И им он умеет дорожить. А качество, уровень исполнения у настоящих маэстро и примадонн эстрады всегда один — высокий. Без контрастных, зачастую невидимых глазу неспециалиста, колебаний.

Пугачева не ищет меценатов. Она в жизни всего добивается сама. И, наверное, самое похвальное качество Аллы Борисовны — она вне конъюнктуры. Помнится, и звание ей долго не присваивали из-за "не того" репертуара. Действительно, песня "Товарищ Генеральный секретарь" звучала в другом исполнении. Поэтому и народной артисткой Пугачева стала уже после Леонида Ильича.

Иные подходы и ценности у Эдуарда Семеновича. Он нашел себе устойчивого спонсора в лице фирмы "Батывля". Как-то в одном из интервью "благодарный" Ханок разоткровенничался, что у него никогда не было таких условий для творчества и отдыха, как сейчас: и кабинет, и сауна рядом, и гимнастический зал... И ему по-человечески хотелось, мол, создать такую песню, чтобы президент фирмы сказал: "Ах!.." И нашелся поэт, конечно же, Григорий Соколовский, воспевший реченьку Батывлю и другие прелести родных пейзажей главного фирмача. Теперь песню поют всей фирмой, и сердце руководителя — не камень... Приятно-с! Когда тебя воспевают...

Первый урок пошел впрок. Получилось! Сейчас оставалось, чтобы ахнул президент помасштабнее. И вторым шагом соавторов стало создание песни "Товарищ президент". Поэтические ее достоинства — тема отдельного разговора. Замечу только, что есть в ней такие прозаические слова:

*"Товарищ президент!*
*Наступит тот момент..."*

Так и удивляться не стоит. Писал же не Максим Горький, у которого что ни "песнь" в прозе, так настоящая поэзия. Шалили этим, как известно, и Лев Толстой, и Иван Бунин... Какой образный, поэтический слог их рассказов, справедливо отнесенных критикой к... стихам в прозе. Здесь же, наоборот, зарифмована проза. Может, явилась причиной обоюдная спешка сочинителей слов и музыки.

Признался же Ханок, что к 25-летию своего творчества торопился он порадовать (на сей раз) президента Республики Беларусь Александра Лукашенко, который и звание народного артиста присвоил, и исполнительскую манеру дочери Светланы по достоинству оценил... А Александр Григорьевич в песенном творчестве, как и в спорте, и в знании экономики, конечно же, не дилетант. Своим музыкальным слухом, безусловно, уловил бы самобытность очередного творения Ханка. Жаль, обстоятельства помешали прийти на встречу. Не столько коллег-композиторов ждал на юбилей Эдуард Семенович, сколько президента.

Это Игорь Лученок, кстати, тоже пропустивший ханковский творческий юбилей, весьма критично отзовется о музыкальных достоинствах "Товарища президента", на что Эдуард Семенович не преминет заметить: это, мол, был еще рабочий вариант... Выходит, для самого Ханка "теория волны" неприемлема. Он создает, разумеется, только шедевры. Ему и посвящаются мои строки:

*Стварыў жа Эдуард нятленку:*
*Цяпер з дачкой здымае пенку.*

А для выдающейся певицы Пугачевой мелкие ханковские укусы ровным счетом ничего не значат. Еще дедушка Иван Крылов в "Слоне и Моське" заметил, что "маленький герой", знать, силен, коль лает... Кого из персонажей басни и с кем сравнить — оставим право на домысливание читателям.

Алла же Борисовна продолжает оставаться европейской и всемирно известной леди эстрады, независимо от завоеванного ей места на конкурсе "Евровидение" и желания-потуг Эдуарда Ханка всплыть на волне ее популярности. Пока же мы видим только мелкие пузыри необоснованной критики и предвзятого отношения к прославленной певице.

**Виталь Чаусский.**

Личный взгляд

# И почему это вчерашние яростные коммунисты и православные атеисты сегодня так истово крестятся рядом со своими недавними врагами?

Меня давно уже забавляет альянс Лукашенко — Филарет. Оказывается, не только меня одного. Подтверждение тому — публикация открытого письма "Встаньте на сторону истины" профессора Н.Круковского в восьмидесятом номере "Народной воли".

Сразу же скажу: я полностью на стороне уважаемого Николая Игнатьевича, потому что испытываю аналогичные чувства и мысли, которыми поделился с читателями газеты профессор Круковский. Правда, кое-что хочу добавить.

В самом деле, где еще вы увидите (разве что в России?) подобное обращение высших государственных лиц с высшими духовными сановниками? И почему это вчерашние яростные коммунисты и православные атеисты сегодня так истово крестятся рядом со своими (недавними) духовными врагами?

Врагами ли?

Вот почему, в отличие от профессора Круковского, я не испытываю чувства глубокого уважения к человеку, занимающему высокий духовный пост под именем Филарета, ибо, анализируя вышеупомянутый, странный на первый взгляд, альянс, могу сделать только один вывод: и первый и второй — люди коммунистической закваски, воспитанные коммунистической партией и верно ей служившие. Сегодня — оба на вершинах власти в своих "приходах" и, естественно, испытывают большую потребность в наставлении своих чад на путь истинный. Благо, подход к этому делу остался у них еще с тех самых времен.

Цинизм — основная методология послеоктябрьских воспитателей — создателей новой исторической общности — советского народа. Сегодня этим же кнутом вооружены пастыри белорусов, самого затюканного коммунистической идеологией народа. Союз же сегодняшних пастырей существовал всегда. Государство всегда контролировало церковь, даже отделенную от государства. Но если в годы коммунистического режима церкви надо было как-то выживать и ради этого даже пускаться в грехи тяжкие, сотрудничая с официальной идеологией, что, естественно, затягивало церковников и в практическую сферу (например, сотрудничество с КГБ), то что заставляет сегодня высшее духовное лицо в государстве освящать все содеянное архиправославным атеистом?

Впрочем, требовать идти на костер сегодняшних патриархов, митрополитов и иже с ними ради чистоты веры не стоит: не пойдут они. Ибо не избавились от другой веры. Веры в кесаря. Потому и ведут нас духовные отцы наши не на свет слова Божия, а на чадящие факелы кесарей, которые, в свою очередь, воображают, будто ведут за собой нацию в светлое будущее. Потому и рождаются в одних душах их паствы смятение, в других — цинизм, в третьих — жестокость, в четвертых — безысходность. А все вместе — деградация нации. Итог — поиск спасения в переходе общества в новое качественное состояние, будь то "объединение славянских народов" или "путь в Европу".

А может, изберем третий путь? Потому как ни тот, ни другой не спасут нас как нацию. Первый растворит нас на бескрайних просторах великой России. Второй — пока не для нас. Европа не любит людей без роду, без племени, агрессивных, не верящих ей. Это мы на бытовом уровне толерантные да памяркоўныя, а стратегически — мы аморфная масса, живущая по принципу "и так хорошо, лишь бы не было войны", но при этом очень не любим всех, кто живет хорошо даже по нашим, весьма приблизительным представлениям о качестве жизни в той же Европе. Надо открыть глаза людям на истинное состояние мира, научить их почувствовать себя людьми, народом. И в этом деле роль церкви исключительно велика. Но только в том случае, если это будет истинно белорусская церковь, а во главе ее будут истинные белорусы, впрочем, как и во главе государства.

**Иосиф СЕМКИН,**
**58 лет, инженер.**

Минск.

